# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 39 (1741) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК, 24 ВЕРАСНЯ 1989 г. Цана 80 зл.



Музей войска па вул. Кілінскага ў Беластоку. Фота Я. Целушэцкага.

## АДАМ МАЛЬДЗІС
# З Караткевічам у Польшчы

Толькі мы выйшлі на вуліцу, як з вежы Мар'яцкага касцёла раздаліся гукі гейнала. Трубач трубіў кожную гадзіну ў памяць аб колішнім татарскім нашэсці. Воін, які аглядаў тады са старожы навакольныя палі, пабачыў ворага і ўзяў трубу, каб папярэдзіць гараджан. Але толькі ён выдаў некалькі гукаў, як варожая страла ўпілася яму ў горла... Таму і цяпер мелодыя нечакана абрываецца на высокай ноце.

— Ведаеш, дзед, добра было б правесці ноч на вежы з гейналістамі, — Валодзя нечакана спыніўся.

— Дзеля чаго?

— Нічога ты не разумееш! Каб пабачыць старыя муры і дрэва, адчуць іх пах. Каб зверху пачуць гукі начнога горада. Адчуць стагоддзі.

Аднак Нядзеля аднёсся да Валодзевай ідэі без асаблівага энтузіязму:

— Ніколі не чуў, каб туды кагосьці пускалі. Нават не ведаю, ад каго гэта залежыць. Ва ўсякім выпадку, не ад духавенства. Мусіць, ад гарадскіх улад.

— Тады пойдзем за дапамогай да Уладзімежа Мацёнга ў „Жыцце літэрацке". Калісьці бываў ён у Беларусі. Раскрытыкавалі яго нашы за адзін рэпартаж — часам слушна, а часам і не... Можа, забыў старую крыўду?!

Уладзімеж Мацёнг, вядомы польскі публіцыст, прыняў нас з падкрэсленай ветлівасцю, але ад нечаканай просьбы і ён развёў рукамі. Доўга званіў. Нарэшце высветліў: дазвол залежыць ад гарадской пажарнай каманды. Падыйшлі мы туды — і нам неакрэслена паабяцалі, што вывучаць справу. Бо мы першыя, хто звярнуўся да іх з такім незвычайным жаданнем.

Праз тры дні па нас спецыяльна прыйшоў пажарнік, здаецца, нават не радавы, і павёў нас па стромкіх драўляных сходах на старадаўнюю Мар'яцкую вежу, пазнаёміў нас з двума гейналістамі, якія, дзяжурачы, штогадзінна трубілі на змену. Валодзю ўразіла, што ў каморцы для адпачынку нават стаяў тэлевізар. Гейналісты аказаліся людзьмі маладымі, гаваркімі, асабліва Янак Колтун, сын Яна, прадстаўніка той жа прафесіі. Пабачыўшы Валодзевы запасы, яны адразу згадзіліся, каб мы ў іх пераначавалі. Але я адмовіўся: трэба было вяртацца ў бібліятэку. Караткевіч жа застаўся. Потым пайшла легенда, што ў тую ноч гейналісты не трубілі — упершыню за шэсцьсот год. Ці так яно было — не ведаю, бо ад Мар'яцкай вежы да гасцініцы „Кракові я" — добры кавалак дарогі... Потым легенду падхапілі польскія газеты. Яцак Москва пісаў у штотыднёвіку „Політыка", што Караткевіч быў першым паэтам, які пераначаваў на вежы (ёсць толькі сумненні наконт Галчыньскага). А пасля смерці пісьменніка Анатоль Верабей знайшоў яго верш „Вакол хейнала", прысвечаны „Яну Колтуну II самаму маладому трубачу — „хейналісту" Вежы Мар'яцкай". Пачынаецца ён радкамі:

Думаеце — герольды  
Ў барве й каронах?  
Рык фанфаронаў — ад  
судната дня глухіх?...  
А тут проста трубы  
Чэшскай фірмы „Лігатона",  
А на калках вісяць кажухі.  
Бэлькам — шэсцьсот  
(Тут што праўда, то праўда)...  
Сведкі польскай, і нашай,  
і... іншай зары,  
Але тут... Тут спявае ціхутка  
радыё  
І ў каморцы „тэлік" маленькі  
гарыць.

На вежы паэта сустрэлі тыя ж пахі баршчу, цёплага хлеба, цыбулі, што і ў час начлегу на яго родным Дняпры. І яму добра глядзець зверху на помнік, што

(Праця г на стар. 6)

## БЕЛАРУСЫ У ПАЛІТЫЦЫ

# ПАСЛЯВЫБАРЧЫ ПОГАЛАС

Ва ўсёй публіцыстыцы важныя падзеі і даты часцей вызначаюцца пераломнымі, або гістарычнымі. Такой падзеяй былі сёлетнія выбары. Безумоўна, што 4 чэрвеня 1989 г. для грамадска-палітычнага жыцця краіны быў тым, чым для спакойнай дагэтуль паверхні з'яўляецца падводны выбух астыўшага вулкана. Ужо раней, у 1981 годзе, ён абвясціў сваё існаванне. Як падчас кожнай падводнай эрупцыі ўзнікае хваля, так падчас выбараў прайшло праз краіну „цунамі", якое перамогай і трыумфам пакрыла яе тэрыторыю, апрача часткі т.зв. Усходняй сцяны ў Беластоцкім краі. Тут яно сутыкнулася з беларускім праваслаўным, даўно нябачаным прылівам. Якраз сілы яго ніхто з экспертаў не браў пад увагу, хоць прадбачанае цячэнне пайшло прынамсі ў трох напрамках.

Здзіўленне, выклікaнае фактам узнікнення беларускай незалежнай плыні, шырока адбілася ў масмедыях. „Gazeta Współczesna" ад 23.VI.1989 г. апублікавала інтэрв'ю „Znacząca przegrana", якое даў кандыдат у сенатары — Сакрат Яновіч. Трэба прызнаць аўтару публікацыі Л. Халецкай-Палоцкай, што ў апрацаваным ёю інтэрв'ю знайшла сваё адлюстраванне найбольш трапная інтэрпрэтацыя беларускай прысутнасці ў выбарах і прагноз ле. Значэнне гэтага інтэрв'ю яшчэ і ў тым, што ўпершыню ў Народнай Польшчы было ў ім публічна сказана пра палітычныя аспірацыі беларусаў — утварэнне сваёй партыі.

Трэба было бачыць рэакцыі людзей на адну толькі гэтую думку: ад перапалоху, асабліва ў тых, хто на вырашэнне якіх-колечы беларускіх спраў чакае дазволу зверху, да непрыхаванай радасці ў іншых, якія паратунак для тутэйшай часткі беларускага народа бачаць у карэнным змяненні грамадска-палітычных умоў нашага, адвечнага тут, існавання. Не ад сёння бэзразумелы ім факт, што для беларускіх дзяцей створаны, так сказаць, усе ўмовы для выхавання іх на сучасных „янычараў" свежаабранай імі нацыянальнасці... Стварэнне ж для нашых дзэтак альтэрнатывы бе-

(Праця г на стар. 4)

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

БЕЛАРУСКАЯ КАЗКА

## ХВЕДАР НАБІЛКІН

Заканчэнне.
Пачатак у папярэднім нумары.

Сабраўся Набілкін, сеў на сваю дохлую кабылу і паехаў.

А цмок чакаў, чакаў Хведара Набілкіна, не дачакаўся — сам да яго выйшаў. Сустрэліся яны на паўдарозе. Як убачыў Хведар Набілкін перад сабою страшыдлішча дзевяцігаловае, напужаўся, ды, як дуж, ходу назад! Цмок за ім. Збіўся Хведар Набілкін з роўнай дарогі, трапіў назад. А гэта дарога вяла ў дрыгвяністае балота. Ляцеў, ляцеў ён па глухой дарозе ды ўскочыў проста ў дрыгву. Цмок, не разглядаючы дарогі, таксама туды бухнуўся — адны галовы тырчаць.

Хведар Набілкін лёгкі быў, выскачыў адразу, а цмок і засеў там, як корч.

Разглядзеўся Хведар Набілкін — моцна сядзіць цмок у балоце, не паварушыцца нават. Схапіў ён цмокаў меч, падняў сяк-так і давай страшыдлішчу галовы адсякаць. Адсек усе дзевяць галоў, цяжкі меч у балота ўтаптаў, а сам пайшоў назад пехатою: кабылку сваю з дрыгвы выцягнуць ніяк не здолеў.

Прыйшоў на луг, крычыць да асілкаў:

— Гэй, малайцы! Зараз жа ідзіце ў дрыгвяністае балота, прывядзіце майго багатырскага каня. Я там з паганым цмокам ваяваў, усе дзевяць галоў яму сцяў.

Пайшлі асілкі на дрыгвяністае балота, глядзяць — і праўда: валяюцца ў балоце ўсе дзевяць цмокавых галоў!

— Вось жа, — кажуць, — сіляка! Гэта ж дзіва: утаптаў паганага цмока ў дрыгву і ўсе галовы адсек яму! І чым? Глядзець няма на што: не меч, а каса нейкая ды і толькі!

Узяў Гаравік кабылу пад паху і прынёс гаспадару.

Ячшэ большая слава пайшла пра магутнага асілка Хведара Набілкіна. Дачуўся пра яго сам цар Храпун. Захацелася яму мець пры сабе такога слаўнага асілка, які дзевяцігаловага цмока адолеў. Паслаў яму запрашэнне.

З'явіўся Хведар Набілкін у палац. Цар справіў яму дарагое адзенне, аддаў лепшы ў палацы пакой, слуг і кухара да яго прыставіў.

Жыве Хведар Набілкін, прыпяваючы.

Мінуў год, другі, на трэці год выступіў супраць цара Храпуна злосны ды грозны суседні цар Хапун.

Сабраў ён такое войска, што вокам не акінеш, лікам не злічыш. Стаў ён з войскам ля ста-

(Працяг на стар. 10)



Удзельніца конкурсу „Беларуская песня '89" для школьнікаў Агнешка Камінская з Кляшчэляў. Фота Я. Чэрнякевіч.

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Іван Крупко

### НЯЎДЗЯЧНЫ КОТ

Ехаў козлік па шашы,
Вёз смятану ў гладышы.
Просіць козліка каток:
— Дай смятанкі хоць глыток.
— Мне не шкода, коцік,
Падстаўляй свой роцік.
Кот смятану ўсю злізаў,
Нават дзякуй не сказаў.

### ЛІЧЫЛКІ

— ✲ —

Раз, два, тры, чатыры, пяць,
Воўк з лісой пайшлі гуляць.
Следам вожык тупаціць.
Мы пайшлі, табе — вадзіць.

— ✲ —

Тары-бары, растабары,
Выязджалі тры Барбары
На кані вараным,
У вазку залатым.
Іх вязе Цімох-вазніца.
З кім ты хочаш пракаціцца?

### ЛАДАЧКІ

Ладачкі, ладкі,
Мы пячэм аладкі.
Пшанічныя, ячныя,
Пульхныя, смачныя.
Са смятанай іх ядзім.
Хочаце — і вам дадзім.

### НАВАЛЬНІЦА

Наляцеў віхура-вецер —
Горы пылу узняліся,
Прычасаў траве ён грыву
І між дрэваў прытаіўся.
Сонейка закрылі хмары,
Пацямнелі ўсе абшары.
Раптам дожджык секануў.
Кот у сенцы сігануў.
Куры кінуліся ў клеці,
Ад дажджу ўцякаюць дзеці.
Злосны Бобік хутка
Схаваўся у будку.
Гром грыміць-страляе
У дубы цаляе...
Гускі, мае гускі
Не ідуць дадому,
Зусім не баяцца
Страшэннага грому.
Дождж, сыпані гусцей,
Вымый чысценька гусей.

## ТОЛЬКІ АДЗІН КАМЕНЬ

Хлопцы гулялі на лузе ля шашы. Назбіралі камення, а потым кідалі ў бок шашы. Каменне трапляла ў бок машын, у колы або пераляталa над шашою.

Па шашы ехаў аўтобус. Як заўсёды ў пятніцу, перад выхадным днём народу было поўна. Людзі ехалі з горада да бацькоў у вёску, каб дапамагчы па гаспадарцы.

Да дзядулі і бабулі ехаў з мамай Ірык. Ён толькі тры дні назад выйшаў з бальніцы. У яго была апераравана нырка. Хлопчык выглядаў марна, быў слабы і белы.

— Чаму ён такі белы? — пацікавіўся пажылы мужчына.

— Ён хвараў шмат гадоў, — адказала маці.

— Колькі табе гадоў, хлопчык? — спытаў мужчына.

— Чатырнаццаць, але ўсе гавораць, што выглядаю на дзесяць.

— Нічога, ён паправіцца цяпер, — усміхнулася маці. — Бабуля і дзедка ўмеюць угаварыць, каб яму хацелася есці.

— Чаму ты так слаба ясі?

— Бо мне не...

Хлопчык не дагаварыў. Вялікі камень, разбіўшы шыбіну, трапіў у Ірыкаву скронь. Хлопец упаў ніцма на калені мужчыны, які сядзеў насупраць.

Маці закрычала дзікім голасам.

Вадзіцель затрымаў машыну. Акрываўленага хлопчыка вынеслі з аўтобуса. Паспешліва пачалі выходзіць людзі.

— Гэта яны! Яны! — крыкнула жанчына, паказваючы на траіх хлапчукоў, якія хутка ўцякалі лугам.

— Стойце! Стойце! — закрычалі два маладыя салдаты, якія таксама ехалі ў водпуск да бацькоў.

Хлопцы беглі далей. Салдаты хутка дагналі іх і прывялі на месца выпадку.

— Што ж вы нарабілі? — закрычала маці хлопчыка. — Забілі майго сына!

— Ціха, ціха, не нервуйцеся, — угаворваў чалавек, які бегаў у вёску і выклікаў хуткую дапамогу. — Зараз будзе лекар.

— Вось гульню знайшлі! Гэта ж падумаць! Забілі чалавека! Якая распушчаная цяпер моладзь! — нерваваліся пасажыры.

Пад'ехала „хуткая дапамога", а за ёю і міліцыя.

Лекар агледзеў хлопчыка і сказаў:

— Нічога не магу зрабіць! Ён ужо мёртвы.

Спалоханыя і белыя, як палатно, стаялі тут жа хлопцы, якія кідаліся каменнямі.

— Колькі вам гадоў? — спыталі салдаты.

— Мне дванаццаць, — адказаў адзін. Тое ж самае адказалі і два іншыя.

— Уцешацца вашыя бацькі! Сядайце ў машыну! Паедзем да іх, — сказаў міліцыянер.

„Хуткая дапамога" з мёртвым хлопчыкам і яго мамай паехала ў горад, а аўтобус з пасажырамі рушыў у далейшую дарогу.

Ірына Салавей

## Вершы Віктара Шведа

### НЕ СКАЖУ

Запытвае матулю
Спалоханы Кандрат:
— Што я парваў кашулю
Не гаварыў мой брат?

— Нічога, — кажа мама, —
Не ўспомніў Міхасёк.
— Я не скажу таксама,
Што ён разбіў збанок.

### СНАТВОРНЫ СРОДАК

Кажа доктар: — Спіце рэдка,
Клопат маеце са сном,
Выпішу я вам таблеткі,
Будзеце спаць нават днём.

Азвалася цётка Ліза:
— Мы ж ужо восьпару дзён
Маем дома тэлевізар,
І на сон найлепшы ён.

### ЧУЖЫЯ ПОГЛЯДЫ

Пытаецца на ўроку
Настаўнік Мікалая:
— Чаму на кожным кроку
Ты погляды мяняеш?

Адказ такі ад Колі
Настаўнік раптам чуе:
— Дык поглядаў ніколі
Чужых я не шкадую.

### ЗАКРЫЙ МНЕ ВОЧЫ, МАТКА, — ПРОСІЦЬ ЗАЙЧАНЯТКА

Зайчаня матулю кліча:
— Ты закрый мне вочы, матка!
За карчом вунь паляўнічы!
— Што, баішся ты, дзіцятка?

— Так табе толькі здаецца.
Напалохала другое:
Нечакана прамахнецца —
Не хачу бачыць таго я!

### ПАЧАСТАВАЛА МАМА ПІРОЖНЫМ АДАМА

Пачаставала мама
Пірожным Адама.
— Пачаставаць жа можна
Сястрычку пірожным.
— А я баюся, мама.
— Чаго, чаго, Адаме?
— Дык вельмі я баюся...
Што возьме Маруся.

## ПАЗНАЁМІМСЯ

БССР, 222810, Мінская вобл., г. Мар'іна горка, Ленінскі завулак, 5, кв. 4. Балуха Лена (16 гадоў).

— ✻ —

МССР, 279200, г. Бельцы, ул. Пионерская, 2, кв. 56. Павалаке Алёна (13 гадоў).

— ✻ —

УССР, 315300, г. Кременчуг, Полтавской обл., ул. Первомайская, 44, кв. 10. Куценко Лене (5 клас).

— ✻ —

БССР, 224021, г. Брэст, вул. Гаўрылава, 20-94, Шыбуня Ліда (16 гадоў).

— ✻ —

БССР, 220002, г. Мінск — 2, вул. Старажоўская, 8, кв. 318. Наташа Александровіч (7 клас).

— ✻ —

БССР, 220036, г. Мінск — 36, вул. К. Лібкнехта, 96, кв. 4. Наташа Шырытон (7 клас).

— ✻ —

БССР, 220004, г. Мінск — 4, вул. Заслаўская, 12, кв. 149. Вова Клемято (3 клас).

## Вясёлы куточак

Мамы няма дома. Тата купае сына.
— Мне з табою купацца лепш падабаецца, — кажа хлопчык.
— Чаму? — дзівіцца тата.
— Бо мама мне загадвае скідаць чаравікі і штаны!

— ✻ —

— Вам вельмі цяжка з блізнятамі, — спачувае суседка маладой маме.
— Не так страшна. Адзін так моцна крычыць, што другога і не чуваць.

— ✻ —

— Тата, дазволь мне сёння дома застацца. Я сябе кепска адчуваю!
— Дзе ты сябе кепска адчуваеш? — пытаецца тата.
— У школе! — адказвае сын.

— ✻ —

— Як вы сябе адчуваеце цяпер, пасля прыпісанай дыеты? — пытаецца лекар у пацыента.
— Вельмі дрэнна, — адказвае той, — нічога мне не смакуе з таго, што было вамі забаронена.

## малюнкі школьнікаў



*Ілюстрацыя да казкі „Воўк-войт". Маляваў вучань II класа Андрэй Дамброўскі з Храбалоў.*

## Куточак Бабкі Кацярыны

*Шлю Табе, дарагая „Зорка", старыя гумарэскі і калыханку.*
**Бабка Кацярына.**

— ✻ —

— Грыцу, Грыцу, рубай дровы!
— Кахі, кахі! Нездаровы!
— Грыцу, Грыцу! Да работы!
— У мяне парваны чаботы!
— Грыцу, Грыцу, да Марусі!
— Зараз, зараз, прыбяруся!

— ✻ —

— Ціт! Ідзі малаціць!
— Жывот баліць!
— Ціт, ідзі абедаць!
— А дзе мая вялікая лыжка?!

— ✻ —

У мяне тры пары чобатаў: адныя — без халяваў, другія — без падэшваў, а трэціх шукаў, шукаў, — не знайшоў, і так босы пайшоў.

### ЗАГАДКІ

**1**

Не корч, а з лісточкамі,
Не сарочка, а сшыта,
Не чалавек, а расказвае.

**2**

Воз без калёс, біч без ляску, а дарога без пяску.

### КАЛЫХАНКА

Залажыў верабей
На прыпечку жніва
І нажаў пшанічанькі
Ды нарабіў піва.
Пачаў думку думаці,
Гасцей выглядаці.
Ляціць пан Журавель,
За ім дзядзька Карасцель,
Шчэ й пані Сінічка,
Родная сястрычка.
А Варона сцеражона
Печку замятае,
А Сарока-белабока
Пірагі саджае.

### А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А





**Гэтыя дзве карцінкі адрозніваюцца паміж сабою 20 недакладнасцямі. Знайдзі іх.**

(Працяг са стар. 9)

## Хведар Набілкін

ліцы цара Храпуна і паслаў яму аб'яву: выклікаю цябе на бой!

Напалохаўся цар Храпун, пытаецца ў Хведара Набілкіна:

— Што рабіць? Пераможа мяне цар Хапун...

— Не пераможа! — адказвае Хведар Набілкін. — Не турбуйся, бацюхна, ідзі спаць, я сам буду ваяваць.

Цар пазяхнуў соладка і пайшоў спаць, а Хведар Набілкін загадаў, каб усе краўцы, цесляры, сталяры з'явіліся ў сталіцу.

І ўсе майстры з усяго царства з'явіліся ў сталіцу — цесляры з сякерамі, краўцы з іголкамі, сталяры з піламі, шаўцы з шыламі...

Выйшаў Хведар Набілкін да майстроў і кажа:

— За тры дні нарабіце мне сем палкоў драўлянага войска!

— Добра, — адказалі майстры. — Наробім!

Як войска было гатова, Хведар Набілкін загадаў:

— Выставіць усё драўлянае войска ноччу за горадам!

Так і зрабілі. А сапраўднае войска Хведар Набілкін схаваў у кустах.

Прачнуўся раніцай цар Хапун, бачыць — стаіць супраць яго сем палкоў войска цара Храпуна: значыць, пара вайну пачынаць.

Цэлы дзень стралялі салдаты цара Хапуна ў салдат цара Храпуна. Увесь порах спалілі, усе патроны патрацілі, а нікога не забілі.

Дзівіцца цар Хапун: ці не зачараванае войска выставіў цар Храпун?

Тым часам Хведар Набілкін даў каманду пускаць у работу сапраўднае войска.

Выбеглі яго салдаты ды давай страляць па войску цара Хапуна. Стралялі, стралялі — усё войска перабілі, а самога Хапуна ў палон захапілі і да цара Храпуна прывялі.

Пабудзіў яго Хведар Набілкін і кажа:

— Што загадаеш, цар, з палонным рабіць?

Працёр цар вочы, бачыць — стаіць перад ім звязаны Хапун.

Зарадаваўся цар, падхрабрыўся.

— У пушку яго, — кажа, — зарадзіць і выстраліць у той бок, адкуль прыйшоў.

Так і зрабілі.

Паехаў цар за горад, паглядзеў — усё варожае войска покатам ляжыць, а яго ўсе салдаты жывыя і здаровыя.

— Як гэта табе ўдалося? — пытаецца цар у Хведара Набілкіна, — у Хапуна ж сілы ў тры разы больш было...

— Я, — кажа Хведар Набілкін, — ваюю не сілаю, а розумам.

Паставіў тады цар Храпун Хведара Набілкіна самым галоўным начальнікам над сваім войскам, а сам пайшоў спаць.

Спаў ён цяпер спакойна, бо ніхто з суседніх цароў і не думаў ісці на яго вайною.



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1 „Зорка"

# РАСПЛЮМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК „НІЎКІ“

**Вырачыся** — вымыцца ў рэчцы.
**Высачыць** — выціснуць сок.
**Высвеціцца** — адысці з таго свету (памерці).
**Высербаны** — эмігрант з Сербіі.
**Высечка** — зварот да тупой галавы.
**Выскаліцца** — вылезці з-пад скал.
**Выславіцца** — пазбыцца славы.
**Высланы** — зварот да нязграбных.
**Выслуга** — асушэнне лугоў.
**Выслужыванне** — асушэнне лужынаў.
**Высмаліцца** — звяртацца да нябёсаў.
**Высочвацца** — адпачываць у Сочы.
**Выспа** — ложак.
**Высукаць** — адрубаць сукі.
**Высяленец** — лётчык-гультай.
**Вытварыць** — набіць па шчоках.
**Вытлумачыцца** — выйсці з натоўпу.
**Вытравіць** — выкасіць луг.
**Выфранчаны** — бедны француз.
**Вычленіць** — выкінуць з арганізацыі, напр. з БГКТ.

„ядань“

## ШАРЫК І БАРБОС

(байка)

Нядаўна Шарык бег з двара,
Дзе рыссю, дзе трушком,
Бег ад свайго гаспадара
На шыі з ланцужком.
Насустрач выскачыў Барбос,
Пытаецца ў дружка:
„Куды бяжыш, мой мілы пёс,
Сарваўшысь з ланцужка?
Чаму стаў рана стар і хвор?“
І Шарык сам не знаў,
Мусіць, што гаўкаў на ўвесь двор,
Як злодзея пазнаў.
„Так не спяшайся, не бяжы,
І годзе так тужыць,
Дзе трэба гаўкаць, там ляжы,
Вальготней будзеш жыць.
Рабі вось так, як я раблю,
Дзе трэба гаўкаць — моцна сплю.
І дзе што робіцца — не чую,
Затое ў хаце я начую“...
Надта Шарык наш здзівіўся
І на Барбоса абурыўся:
„О, бессаромнае стварэнне!
Згубіў ты розум і сумленне,
А з імі й воблік свой сабачы,
Стаў жыць агідна, па-кашачы!“
Сярод людзей так сын лайдачы
Змяніў свой лёс на лёс кашачы.

Аляксандра Елісеенка

# НІЎКА



## СПАТТОРНАСЦЬ НЕПАЎТОРНАГА

575
Толькі тады, калі думаеш не толькі ад свайго імя, але і ад імя агулу, вырываешся з абдымкаў эгаізму.

576
Злоўжыванне свабодай — шлях да няволі.

577
Саромся зробленых глупстваў, а не зробленых — бойся.

578
Учынкі многіх людзей пярэчаць тэзісу аб тым, што чалавек поўнасцю вылучыўся з грамадства малпаў.

579
Жыццё гэта агароджа, якая складаецца з абавязкаў і павіннасцей.

580
Быць беларусам значыць жыць цяжка.

581
Некаторыя думкі гарчэйшыя за палын і цяжэйшыя за камені.

582
За лёгкае „заўтра“ трэба плаціць цяжкім „сёння“.

583
Не ўсе праўды прыемныя, але ўсе карысныя.

584
Там, дзе разбіваюць помнікі памершым, могуць забіваць жывых.

Алесь Барскі

## ДЖЫНСЫ

Купіў аднойчы Язэп сыну фірменныя цёмнасінія джынсы. Сын надзеў іх, пакрывіў носам і сказаў: „Я такіх не хачу.“

Прайшло некалькі тыдняў. І вось аднойчы, у выхадны дзень, пачуў Язэп са спальні дзіўныя гукі, нібы там хто дровы пілаваў ці скроб нешта.

Асцярожна ступаючы, прыадчыніў ён дзверы і ўбачыў такую сцэну: на школьным століку ляжалі джынсы, а па іх сын цёр белай сілікатнай цэглай.

„З глузду з'ехаў!“ — падумаў Язэп і паклікаў жонку. Тая глянула ў прыадчыненыя дзверы, паківала галавой і хутка набрала нумар тэлефона псіхіятрычнай бальніцы.

— Алё, алё! — закрычала яна ў тэлефонную трубку. — Тут нешта ня добрае робіцца з маім сынам, узяў цэглу і трэ-шаруе па джынсах... Можа ён, таго... ну, самі разумееце... Можа яго трэба даставіць у псіхіятрычную бальніцу... праверыць... палячыць...

— Перш-наперш трэба палячыць вас, бацькоў, а потым ужо сына, — пачулася ў трубцы.

Язэп выняў са століка дзве таблеткі валідолу. Адну глынуў сам, другую падаў жонцы. Так сядзелі яны мінут з дзесяць. Цішыню парушыў сын. Ён выйшаў у працёртых джынсах.

— На каго ты, сынку, цяпер падобны? — запытаў Язэп сына. — На жабрака!

— Бацька, цяпер так модна. — адказаў сын. І тут жа Язэп зразумеў, што выкінуў сто пяцьдзесят рублёў як на вецер.

Янка Насута

## СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

### З-ПАД АДНОЙ ГАРЫ ВЕЦЕР ВЕЕ

(народная)

З-пад адной гары вецер вее,
З-пад другой гары павявае.

З-пад другой гары павявае,
А маці сына ўгаварвае:

— Ой ты, сын, мой сын,
Слухай мяне,
Слухай мяне, майго слова.

Слухай мяне, майго слова,
Майго слова — начуй дома.

А сын мацеры не паслухаў,
Асядлаў каня, сеў, паехаў.

Ды паехаў ён дарогаю,
Ды дарогаю шырокаю.

Ды дарогаю шырокаю,
Ды далінаю зялёнаю.

Ды далінаю зялёнаю,
Прывязаў каня да кораня.

Прывязаў каня да кораня,
А сам пайшоў да дзеўчыны.

А сам пайшоў да дзеўчыны,
Ой, да дзеўчыны Кацярыны.




## ДЗЮМА І ЛЕКАР

Аляксандр Дзюма (бацька) еў аднойчы абед у вядомага лекара Гістала, які сваім гасцям заўсёды прапанаваў упісацца ў „памятную кніжку“.

— Маэстра, ці маглі б вы ўпісацца ў гэтую кніжку?

Дзюма напісаў: „З той пары, як доктар Гістал стаў лячыць цэлыя сем'і, трэба было разбурыць бальніцу...“

— Вы мяне празмерна хваліце, — перабіў узрадаваны лекар.

Дзюма ўсміхнуўся і закончыў пачаты сказ: „... і закладаць два могільнікі.“

## САКРАТ І ВЫСПЯТАК

Хтосьці даў выспятка Сакрату падчас дыскусіі. Той не рэагаваў, а калі хтосьці другі здзівіўся гэтаму, сказаў:

— А калі б мне выспятка даў асёл, падаваў бы я на яго ў суд?

✱

Размаўляюць дзве сяброўкі:

— Калі я выйду замуж, столькі мужчын стане нешчаслівымі!

— Чаму ж, ты выходзіш толькі за аднаго.




**Той, хто мае супроць сябе дурняў, заслугоўвае даверу.**